Opłata przesyłkowa opłacona ryczałtem.

№ 9 (11). Панядзелак, 31-га Сьнежня 1928 г. м. Вільня. Год II.



# …РУСКІ РАДНЫ

Пэрыядычная часопісь па самаўрадавым справам нашага краю.

| РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: | |
|---|---|---|
| WILNO, Zawalna 6—5. | За 3 месяцы . . . . 2 зл.<br>1 нумар . . . . . . 50 гр. | АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ |

# З Новым Годам!

## Чарговая задача беларускага Раднага.

Ідэальным самаўрадам зьяўляецца той, выбары да якога адбываюцца ў атмасфэры поўнае свабоды і які ў сваім унутранным жыцьці незалежны ні ад мяйсцовых адміністрацыйных уладаў, ні ад цэнтральных. Гэткія самаўрады ёсьць у Англіі, у Швайцарыі, Нямеччыне і іншых заходніх дзяржавах з устанавіўшымся дэмакратычна-канстытуцыйным ладам.

Толькі гэтакі самаўрад можа апраўдаць сваё назначэньне. Нажаль, нельга пакуль прызнаць ідэальным наш самаўрад, які ў большай ці меншай меры пазбаўлены унутранае незалежнасьці. А затым, дзякуючы яшчэ таму, што наш самаўрад па свайму складу ня зусім адпавядае фактычнаму стану нацыянальных суадносінаў нашага Краю, гэтыя нэгатыўныя бакі яго яшчэ больш павялічваюцца на некарысьць ягонай працы.

Аб гэтых асаблівасьцях нашага самаўраду прыходзіцца гаварыць дзеля таго, каб адцяніць асабліва трудную, але затое і паважную ролю беларускага раднага, якая выпала на яго долю ў пэражываемы цяжкі момант для нашага Краю.—Яму прыходзіцца вясьці сталую барацьбу з тою польскаю большасьцю ў гміннай Радзе, ці ў павятовым Соймiку, якія больш падлягаюць уплыву цэнтральна-адміністрацыйных уладаў і інтарэсы якіх не заўсёды супадаюць з інтарэсамі беларускага грамадзянства. Усім беларускім радным добра ведамы тыя частыя спатычкі з польскаю часткаю радных, якія ўзьнікаюць на грунце грашовых асыгнаваньняў на польскія пачатковыя школы, гімназіі, адбудову цэркваў і касьцёлаў, будоўлю гмахаў для розных польскіх арганізацыяў і г. д. А калі дзе ў гміннай радзе і ёсьць большасьць беларускіх радных, дык па шмат якіх пы-

таньнях даходзіць да канфліктаў з старастамі, ці вышэйшамі самаўрадавымі або надзорчымі інстанцыямі, якія не зацьвярджаюць вынесеных пастановаў.

Аднак-жа, дзе беларускія радныя складаюць большасьць у Гміннай Радзе і цьвёрда стаяць на варце абароны інтарэсаў свайго народу, часта перамога бывае на іх баку. Ніякі староста, ніякі пастаўлены ім войт ня змусіць беларускае большасьці вынесьці тыя пастановы, якія пярэчаць жыцьцёвым інтарэсам беларускага народу. Гэта трэба мець на ўвазе беларускім радным, асабліва ў перажываемы момант, які ў зьвязку з катастрофаю неўраджаю накладае на іх спэцыяльны абавязак абароны інтарэсаў пацярпеўшага ад неўраджаю жыхарства.

Вельмі прыемна сачыць за тым, як розныя гміны і паветы ідуць на выперадкі ў адбудове Краю. Але ня трэба упушчаць з віду аднаго, што галоўным выканаўцам і платнікам гэтае, адбудовы найбольш пацярпеўшага ад вайны і розных акупацыяў нашага Краю, зьяўляецца беларускі народ, які ў пераважаючай большасьці сваёй сам нічога ня мае. І калі гэтая адбудова Краю будзе вясьціся і далей у гэтакім-жа тэмпе, без прыняцьця пад увагу цяжкага матэр'яльнага стану беларускага жыхарства, дык у выніку, заместа карысьці для Краю і Дзяржавы, можа вынікнуць толькі страта. Бо даведзеныя да поўнае руіны і гаспадарчае няздольнасьці элемэнты зьяўляюцца найбольш небясьпечным матэр'ялам для Краю і грамадзянства.

Вось дзеля чаго беларускі радны павінен выявіць максымум энэргіі і творчае ініцыятывы ў сучасны момант, бо большасьць выдаткаў на адбудову Краю лажыцца на самаўрады. Гмінныя самаўрады павінны пераглядзець плян гмінных работаў, пакінуўшы з іх толькі самыя неадкладныя і патрэбныя для ўсяго жыхарства і адлажыўшы на пазьнейшы час, пакуль не палепшыцца гаспадарчая сытуацыя Краю, тыя будаўляныя работы, якія ня маюць беспасрэдняе сувязі з палепшаньнем матэр'яльнага стану найбольш пацярпеўшых ад неўраджаю паветаў. З гэтага пункту гледжаньня зусім рацыянальная пастанова некаторых самаўрадаў аб часовым спыненьні субсыдыяў на будову жалезнае калеі Друя-Варапаева, у якой няма пакуль раптоўнае патрэбы. Наагул, у кожнай гміне знойдзецца шмат такіх будаўляных плянаў, з выкананьнем якіх можна пачакаць, пакуль ня пройдзе гаспадарчы крызыс, выкліканы неўраджаем.

Агульная увага цяпер павінна быць скіравана у першую чаргу не на адбудову вонкавага боку краю, як ахварбоўка хатаў, абсадка дрэвамі дарогаў і, г. д. пры адначасовым зьніштажэньні лясоў, але на змаганьне з неўраджаем. Зусім зразумела, што ня можа быць і мовы аб тым, што самаўрады пойдуць на спатканьне бяднейшых жыхароў у спагоне камунальных падаткаў і выдачы пасеўных жывёлагадоўляных і гнаёвых пазык.

Ува ўсей гэтай акцыі можа і павінен адыграць галоўную ролю самаўрад, як беспасрэдна зьвязаны з народам і асабліва беларуская яго частка. Дзе, што і як рабіць, кожнаму раднаму падкажа яго сумленьне і грамадзкі абавязак перад сваімі выбаршчыкамі, з якімі ён павінен падтрымліваць сталы духовы кантакт, асабліва ў крытычныя моманты.

# Гаспадарчы стан на Віленшчыне.

У мінулым тыдні праз Вільню праяжджаў Міністар Земляробства п. Станевіч, які ў размове з супрацоўнікам польскае газэты „Kurjer Wileński" выказаў свой пагляд на сучасны гаспадарчы стан у нашым Краі.

Між іншым ён сказаў, што неўраджай гэтага году галоўным чынам датыкнуўся паўночных паветаў Віленшчыны, але урадам прыняты меры, каб у той ці іншы спосаб залагодзіць гэты недахоп. Будовай новай шашы паміж Сьвянцянамі і Браслаўем даецца магчымасьць жыхаром зарабляць пры звозе каменьняў.

Далей Урад ідзе з дапамогай ў крэдыце на насеньне і на штучны гной. У апошнім часе зьявілася магчымасьць разьмясьціць польскія застаўныя лісты за граніцай і з атрыманых грошаў частка пойдзе на ўсходнія землі і, гэтакім чынам, цяжар сёлетняга неўраджаю будзе злагоджаны, і на вясну земляробы будуць магчы з размахам ўзяцца за работу.

У галіне лённай Землеробскі Банк узяў на сябе арганізацыю прадукцыі, збыту і перапробкі лёну, а гэта павялічыць даходнасьць гаспадарак, асабліва дробных і гэтым прылучыцца да падняцьця народнага дабрабыту. Найбольш гэта адаб'ецца на самай Вільні, якая у будучыне можа стацца другім Жырардавам.

Гэтак сама добра ідзе і промысел паперны і можна мяркаваць, што з кожным годам ўсё больш будзе разьвівацца, а гэта надта карысна для нашага Краю, які мае шмат сыроўца і ў сучасны мамэнт змушаны гэты сыравец у большай часьці збываць да усходняе Прусіі. Было-б куды больш пажаданым, каб сыравец выходзіў-бы заграніцу ўжо перароблены ў паперу.

Далей заўважваецца паступовае развіцьцё у галінах малачарства і яйчарства і каб упарадкаваць гэтыя справы, нажаль, не хапае патрэбных спэцыялістаў.

Як ведама, ў Ваўкавыску нядаўна засталася адчынена вялікая рэзьня, што дае магчымасьць распачаць гандаль мясам.

Яшчэ важная справа, якая ажывіць увесь Край, гэта пляновыя работы мэліорацыйныя і дарожныя, якія ўжо вядуцца, а гэтак сама приступлена да рэгуляваньня рэкаў. Усё гэта разам зьяўляецца важным варункам для агульнага падняцьця землеробства ў нашым краі.

На запытаньне, якія патрэбны неабходныя варункі, каб падняць у нас стан земляробскай прадукцыі да вышыні існуючай у заходняй Польшчы, п. Міністар адказаў, што дзеля гэтага найгалаўнейшым варункам ёсьць адпаведная гаспадарчая палітыка Ураду, якая магла-бы запэўніць землеробам аплатнасьць, а гэта залежыць ад трох дзейнікаў: 1) ад тэхнікі землеробства, уплываў землеробскіх школаў і асьветы зашкольнай, дзеля гэтага патрэбным было-бы, каб з будачага году пры Віленскім Унівэрстытэце быў урухомены землеробскі аддзел, які-бы злучыў пры сабе ўсё землеробскае навуковае жыцьцё і выхоўваў-бы моладзь, каб не адходзіла у іншыя галіны.

2) Ад коштаў прадукцыі, залежнай у большай меры ад камунікацыйнае сеткі, якая з кожным годам палепшываецца. Будучы год будзе годам адкрыцьця шашы паміж Вільняй і Варшавай праз Эйшышкі-Радунь-Азёры. Далей Урад стараецца, каб жыхары вёскі праз Землеробскі Банк мелі магчымасьць мець танны штучны гной, цэны на які ў сучасны мамэнт адпаведна абніжаны, прыстасоўваючы да мяйсцовых патрэбаў. Але найгалаўнейшым ёсьць арганізацыя крэдыту, да якога Землеробскі Банк у шырокіх разьмерах імкнецца.

3) Ад лёгкасьці збыту і адпаведных цэнаў. Урад забараніў вываз збожжа і ўстанавіў мыта на вываз яго. А гэтак сама ўстанавіў мыта на тлушчы, аплату на ўвоз макухі і атрубёў і наагул імкнецца ўва ўсіх гаспадарчых галінах урэгуляваць як унутраны гандаль, гэтак і вонкавы экспорт. Але ўсе гэтыя варункі, як казаў далей Міністр, у большай меры залежаць і ад уласнае энэргіі і спосабаў дзейнасьці, а дзеля гэтага трэба пажадаць, каб нашыя самаўрады перадусім выхоўвалі як найбольшую колькасьць адпаведных людзей, а само грамадзянства дбала-б аб гэтым праз навуку і само прыходзіла-б з дапамогай.

# Самаўрадавая хроніка

**— З НОВЫМ ГОДАМ!** **Рэдакцыя „Беларускага Раднага" віншуе ўсіх сваіх паважаных чытачоў з Новым Годам!**

**— Зьезд Старастаў Віленскага ваяводзтва.** 6 і 7 сьнежня ў гмаху Віленскага ваяводзтва адбыўся зьезд Старастаў Віленскага ваяводзтва. Зьезд адчыніў п. Ваявода Рачкевіч, парушыўшы і схарактэрызаваўшы ў сваёй прамове ўсе галаўнейшыя пытаньні, якія стаялі на дзенным парадку. Акрамя старастаў, у зьездзе прыймалі ўдзел віцэ-Ваявода п. Кіртыкліс, прадстаўнікі Мін. ун. Справаў радцы Бжэзіцкі, Вайноўскі і Стаброўскі, начальнік рольнага аддзелу пры Навагрудзкім ваяводзтве п. Бокун, інспэктар старастаў Нав. ваяв. п. Мілевіч, начальнік бясьпечнасьці Навагр. в. п. Пшыбароўскі, Лідзкі Стараста п. Богаткоўскі, заступнік нач. бясьпечнасьці Віленскага в. п. Некраш і інспэктар Жылко.

У першы дзень зьезду абгаварываліся пытаньні аб бедзтві неўраджаю ў Віленскім ваяводзтве і пазычковай дапамозе Рольнага Банку, які мае сваім абавязкам памагаць пацярпеўшым ад неўраджаю рольнікам. Старшыня Акружнага Земскага Ураду п. Лопчынскі прачытаў адчыт аб дзеяльнасьці Земскіх Урадаў у галіне рольнае рэформы. Затым начальнік аддзелу ральніцтва п. Шаняўскі прачытаў адчыт аб формах супрацоўніцтва камунальных саюзаў з грамадзкімі ральнічамі інстытуцыямі. Дырэктар аддзелу Банку Рольнага п. Мацулевіч закрануў справу аб льнянай гаспадарцы. Нарэшце разглядаліся справы аб црадавольстві і залясьненьні няўжываных абшараў.

**— Проціў сухотачны кабінэт у Сьвянцянах.** Мясцовае Проціўсухотачнае Т-ва пастанавіла адкрыць у Сьвянцянах проціўсухотачны кабінэт (przychodnię). Дзеля абгаварываньня арганізацыйнае працы адбылося ў памешканьні Сойміку паседжаньне проціўсухотачнага Т-ва.

**— Будова скатабойні у Нова—Вялей-**

цы. Аддзел Павятовы Віленска—Троцкага Сойміку вызначыў Магістрату места Н.—Вялейка 20,000 зл. з эмэрытальных фондаў на будову меставае скатабойні.

**— Адклад выплаты рольных пазыкаў.** Банк Гасп. Кр. прызнаў пэўныя палёгкі ў справе выплаты пасеўных і„Klęskowych" пазыкаў для Усх. ваяводзтваў, а ласьне адлажыў гэтыя крэдыты:

На 3 месяцы з платаю толькі процантаў для паветаў — Браслаўскага, Дзісьненскага, Маладэчанскага, Пастаўскага і Сьвянцянскага;

2) На 3 мес. з уплатаю процантаў і 20 проц. капіталу для паветаў: Ашмянскага, Віленскага і Віленска-Троцкага.

Затым пастаноўлена адлажыць выплату гнаёвых вэксалёў (Koopralnej) рольнікаў з паветаў: Браслаўскага, Дзісьненскага, Пастаўскага, Сьвянцянскага і Маладэчанскага з тым, што 1 лютага 1929 г. будзе сплачана 50 проц., а рэшта ў сьнежні 1929 г. Вэксалі рэшты паветаў Віленскага ваяводзтва будуць прадоўжаны да 15 лютага 1929 г.

**— Паправа дарог у Беніцкай вол. Маладэчанскага пав.** Дзякуючы стараньню войта, дарогі у Беніцкай вол. значна папраўлены, вёскі брукуюцца і г. д. Хоць праўда падаткі „кусьлівыя" ў гэтым годзе, але маем надзею, што у будучых гадох, а моˊ нават і у наступным зьменшацца, бо зьменшыцца бюджэт выдаткаў. Ну, хай хоць пры гэтым гаспадару гміны п. Пжэздомскім, паправяцца варункі усяе гміны. Бо наагул, у гміне куды лепшыя парадкі, як пры „нябожчыку" Пётровічу.

**— Склад гміннага ўраду ў Беніцы, Маладэчанскага пав.** Па насяленьню і па абшару Беніцкая гміна ня так вялікая, каб у ёй было гэтулькі працы для служачых у канцыляры, склад якіх наступны: войт, заступнік, сэкрэтар, заступнік сэкрэтара, памоцнік заступніка, памоцнік памоцніка заступніка, „старшы заступнік малодшага дворніка", як кажуць, сэквэстратар ды да таго 2х падзеньнікаў.

Няма дзіва, што ўзрасьлі падаткі ў гэтым годзе аж на 4-ы злоты на дзесяціну. Гэта ня дзіва, бо трэба-ж утрымаць гэткі штат гмінных служачых!

**— З Лідзкага павятовага Аддзелу.** Лідзкі Павятовы аддзел на адным з сваіх паседжаньняў у пачатку сьнежня ўхваліў адкрыць два вялікія водныя Т-вы, якія ахапілі-бы абшар у 18,000 гэкт. Першая „Багны Дакудаўскія", маючыя мэтаю рэгуляцыю р. Нарві, Нецечы і верхняй часткі Лідзкае, роўным чынам мэліорацыю прылягаючых дрыгвяных тэрэнаў.

Другое Т-ва „Багны Надпучанскія" мае мэтаю рэгуляцыю р. Дзінівы. Выдаткі абрахованы у суме 5, 250,000 зл. На накрыцьцё гэтых выдаткаў скарб Дзяржавы абяцаў выдаць беззваротную субсыдыю ў разьмеры 40%, павятовы самаўрад пакрые 30₀/⁰ і рэшта — 30₀/⁰ будзе пакрыта ўласьнікамі дрыгвяных грунтаў і лугоў. Рэгуляцыя павінна быць праведзена ў працягу 12 гадоў пры помачы 7 проц. пазычкі у дзярж. Рольным Банку на 15 г. Уласьнікі грунтаў і лугоў могуць выплачваць гэтыя пазыкі ў працягу 15 г. па 4 зл. ад 1 гэктару.

Памяровая праца распачнецца ужо ў наступным месяцы. Мініст. Пуб. работ асыгнавала на гэта 45,000 зл., а ўласьнікі грунтаў павінны сабраць па 25 гр. ад гэктара.

**— Зьезд войтаў і пісароў В.—Троцкага павету.** 12 сьнежня ў Вільні адбыўся зьезд войтаў і пісароў В. Троцкага павету. На зьезьдзе абгаварываліся справы аб упрошчаньні падатковай сыстэмы у гмінах. На будучыню паасобныя платнікі на вёсках будуць атрымліваць зьменшаную да мінімуму колькасьць платнічых наказаў, што дасьць ім магчымасьць разабрацца ў падатках, а непатрэбную працу і ў гмінах. Належала-бы гэтым заняцца і іншым паветам.

**— Адкрыцьцё вялікае скатабойні у Валкавыску.** 16 сьнежня адбылося урачыстае адкрыцьцё новазбудаванае вялікае скатабойні ў Валкавыску Беластоцкага ваяв., якая мае паважнае эканамічнае значэньне для усяго нашага Краю. Скатабойня абарудавана навейшымі тэхнічнымі сродкамі і будзе працаваць на экспорт тавару да Варшавы і за-граніцу. Дзеля гэтага туды можна збываць жывёлу значна даражэй, чым у іншых мейсцох. На урачыстае адкрыцьцё прыяжджалі з Варшавы Мін. ун. спр. Складкоўскі і Міністар прамысловасьці і гандлю Квяткоўскі.

**— З павятовага аддзелу Баранавіцкага Сойміку.** У палове сьнежня адбылося паседжаньне павятовага аддзелу Баранавіцкага Сойміку, на якім былі разгледжаны наступныя пытаньні:

1) у справе рэгуляцыі р. Шчары прызнана, што гэтая справа належыць да паважнейшых гаспадарчых заданьняў і дзеля гэтага павятовы аддзел упаважніў старшыню заняцца гэтаю акцыяй пры пасрэдніцтве Мэліорацыйнага Т-ва ў Варшаве. Кошт працы аблічаны у суме 4 800,000 зл., з мэтай атрыманьня якіх зроблены адпаведныя крокі перад урадавымі коламі;

2) у справе ўстанаўленьня сеткі павятовых дарогаў ухвалена залічыць да гэтых дарогаў толькі тыя, якія маюць сапраўды паважнае значэньне для павятовае камунікацыі, а рэшта перадана да кампэтэнцыі гмінаў;

3) у справе ўтрыманьня шпіталю для заразных хваробаў ухвалена, што ў выпадку неатрыманьня дапамогі да 1-І - 1929 г., якую абяцаў дэпартамэнт здароўя Мін. Унутр. Справаў, але якая да гэтае пары не атрымана, ня гледзячы на стараньні ваяводзкага аддзелу, — шпіталь гэты зачыніць.

**— Шарварковая праца ў Стаўпецкім пав.** Стаўпецкі павет належыць да самых меншых паветаў Наваградзкага ваяводзтва. Складаецца з 7 гмінаў, мае 1466 кв. кілям. і паводле пярэпісі 1928 г. — 79,000 жыхароў. У-ва ўсіх галінах гміннае працы павет займае адно з першых мейсц у ваяводзтве. У галіне шарварку дасягнута наступных вынікаў: да 1925 г. было выбрукавана 150 мэтр., у 1925 г. — 1, 490 м., 1926 г. — 1,872 м., 1928 г.—19 пасёлкаў з 9,695 мэтр. (51,281 кв.м) У гэтым-жа годзе выжвіравана 9 пас. з 7,570 м. Фактычная вартасьць 1-го кв. мэтру бруку складае 1 зл., ня лічачы натуральных павіннасьцяў. А калі-бы палічыць і апошнюю, дык кошт аднаго мэтру складае 5 зл. Гэткім чынам уся вартасьць выкананай вясковымі гмінамі павету шарварковае працы дасягае паважнае сумы 256,435 зл., ня лічачы жвіраваньня і пасыпкі дарогаў.

**— Вынікі шврварковае працы у Валожынскім пав. у 1928 г.** У мінулым годзе ў Валожынскім павеце была выканана наступная праца ў галіне шарварку:

Гміны: Валожынская — 18 пасёлкаў (10,710 мэтраў), Забрэская—11 пас. (5,994 м.), Пяршайская—11 пас. (3,555 м.), Вішнеўская — 47 пас. (12,628 м.), Налібоцкая — 10 п. (6,604 м.), Івенецкая — 20 п. (8.877 м.), Волмянская — 8 п. (2 500 м.), Трабская—11 п. (5,059 м.) і Лугомовіцкая — 11 п. (6,350 м). Разам 130 пасёлкаў, 67,657 мэтр. ці 34,429 кв. мэтраў.

Гэта найбольшыя вынікі, якія дала шарварковая акцыя ў мінулым годзе у паасобных паветах нашага Краю, пры гэткім тэмпе працы праз два гады будуць выбрукаваны ўсе пасёлкі Валожынскага павету.

**— З дзеяльнасьці Івенецкае гміны Валожынскага пав.** Рада Івенецкае гміны за першую палову 1928-9. бюджэтнага году адбыла 8 паседжаньняў, на якіх між іншым ухвалена выбудаваць 7-клясовую пачатковую школу ў Івенцы, электроўню, лазьню і скатабойню. З гэтаю мэтаю зроблены крокі перад Банкам Гасп. Кр. у Варшаве аб пазычцы. У выніку гэтых захадаў банк выдаў Івенецкай гміне 60,000 зл. на будову школы. А што датычыць пазычкі на будову электроўні, дык яна узалежнена ад прадстаўленьня пляну, коштарысу і справаздачы аб яе эксплёатацыі. З гэтаю мэтаю Гмінная Рада зьвярнулася да павятовага аддзелу ў Валожыне аб выпрацоўцы патрэбных плянаў і зацьверджаньні іх ваяводзкім урадам.

У галіне будовы дарогаў зроблена: у Івенцы выбрукаваны вуліцы Плебанская, Прырэчная, і 535 кв. мэтраў Койданаўскай і гміннага двара 1060 кв. м. Затым, выбрукавана цалком 16 вёсак, што складае 9,210 кв. мэтр. Зроблена 11 кам. — бэтонных пераездаў і уложаны цэмэнтны хаднік на прасторы 120 мэтр.

На гмінным двары зроблена цэмэнтнае адхожае мейсца з 8 аддзеламі, цэмэнтовы зьліў і сьметнік. У мястэчку Івенец большасьць жыхароў мае цэмэнтовыя адхожыя мейсцы, сьметнікі і зьлівы.

У галіне гаспадаркі дакананa зьмена паштовых коняў: прададзены два кані, а куплены тры новых, куплены 2 аднаконных вазкі, 2 пары вупражы, зроблены рамонт у гмінным гмаху і стайні. Цяпер Гмінны Урад рыхтуецца да будоўлі артэзіянскае студні для агульнага карыстаньня, набыцьця асэнізацыйнага абозу 1 перавознае вагі.

**— Зьезд рольных інструктароў у Наваградку.** У палове сьнежня у Наваградку адбыўся зьезд інспэктараў і рольных інструктароў як самаўрадавых, гэтак і рольнічых арганізацыяў. Прыймала ўдзел каля 60 дэлегатаў. Прыбыў на зьезд і дэлегат ад Міністэрства рольніцтва. Інструктары паасобных соймікаў і рольнічых арганізацыяў зрабілі даклады аб стане працы, выкананай у галіне падняцьця рольнае культуры ў працягу летняга часу і прадставілі падрабязныя пляны гэтае працы на зімовы і вясновы час. Дэлегаты Рольнага Банку і Рэвізыйнага Саюзу рольнічых каапэратываў паінфармавалі аб стане і магчымасьці новых крэдытаў на рольнічыя мэты, роўным чынам аб стане і праэктах у галіне каапэрацыі.

**— З Лідзкага пав. Наваградзкага ваяв.** Лідзкі павет Наваградзкага ваяводзтва ў галіне будовы дарогаў выявіў найбольшыя высілкі. У працягу 1926-27 г. выбрукаваны амаль усе вёскі, г. ё. каля 600 вуліц на прасторы 250 кілямэтраў.

**— Выбары Гміннае Рады ў Любчы Навагр. в.** На выбарах да Гміннае Рады ў Любчы Наваградзкага ваяводзтва, якія адбыліся у сярэдзіне сьнежня, беларускі ліст на чале з сэн. Рагуляю атрымаў 9 мейсц, жыды 1 і палякі 3 мейсцы.

**— Цыркуляр Міністра Ўнутраных Справаў.** Міністар Унутраных Справаў з мэтаю падняцьця гігіенічнага стану краю і яго вонкавага выгляду выдаў вялікі цыркуляр ад 25 верасьня 1928 г. за № 173. Да гэтае пары ўжо выканана значная частка таго, што абавязвае цыркуляр, а ласьне каля 80 проц. дамоў у местах і 60 проц. у вёсках абзавяліся адхожымі мейсцамі і 60 проц. дамоў у местах маюць закрытыя сьметнікі.

У цыркуляры зьвернута асаблівая ўвага на вёску. Ваяводы павінны аказваць уплыў на павятовыя аддзелы, як наглядныя органы за гмінамі, як у бюджэтах апошніх у аддзеле „дарогі" вызначаліся спэцыяльныя выдаткі на „абсадку дрэвамі" дарогаў, у першую чаргу пладовымі дрэвамі.

Рынкі павінны быць выбрукаваны і мець адпаведныя стокі для вады. Усе руіны, ня маючыя гістарычнага значэньня, павінны быць зьнесены, а атрыманы матэр'ял выкарыстаць, ці зложыць у парадку.

У местах павінны быць выбудаваны публічныя адхожыя месты. У кожнай школе

ў месьце і вёсцы павінна быць гігіянічна агледжанае адхожае мейсца. Усе студні павінны быць закрытыя, усе сьметнікі гэтак сама закрытыя і замкнутыя.

Усе дамы, як у местах, гэтак і у вёсках ад вуліцы і ад двара павінны быць атынкованы, выбелены, ці ахварбованы. Гэтак сама павінны быць атынкованы і ахварбованы агарады ў местах. Забараняецца насяленьню абкладаць дамы саломаю.

Падкрэсьленая ў Цыркуляры праца павінна быць выканана у пэрыяды: да 1-XI г. г. — $^1/_4$ працы, да канца траўня 1929 г. — $^1/_2$ працы, да канца верасьня 1929 г.—$^3/_4$ і да канца лістапада 1929 г.—увесь плян.

— **Зьезд войтаў Навагрудзкага павету.** 13 сьнежня адбыўся пад кіраўніцтвам старасты Грыневецкага зьезд войтаў і сэкрэтароў Навагрудзкага павету. Зьезд быў амаль цалком пасьвечаны ўкладаньню гмінных бюджэтаў на 1929—30 г.

Быў прачытаны цэлы шэраг рэфэратаў па розным пытаньням, як школьніцтву, санітарыі і лекарству, вэтэрынарыі, пажарніцтву, ральніцтву і г д.

Плян гмінных бюджэтаў на будучы год устанаўляе пляновае супрацоўніцтва між сабою гмінаў і павятовага аддзелу ў распадзеле цяжару выдаткаў на ральніцтва, утрыманьне лякарскіх раёнаў, гмінных дарожных старажоў, будову бэтонных мастоў на гмінных дарогах і г. д.

Па меры магчымасьці гмінныя бюджэты павінны ўзяць пад увагу выдаткі на ўтварэньне павятовага капіталу будовы школаў, роўным чынам на падтрыманьне вясковай прамысловасьці.

У канцы зьезду абгаварываліся бягучыя справы і пытаньне аб зборы ахвяраў на будову санаторыі ў Наваельні.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Малыя гаспадаркі.

Адною з галаўнейшых задачаў Польшчы зьяўляецца падняцьце выдатнасьці малых гаспадарак, лічба якіх дасягае да 3 міліёнаў. На агульны лік земляробскіх гаспадарак малыя самастойныя гаспадаркі (ад 5 да 20 гэкт-) складаюць 41, 6%, гэтак званыя карлаватыя — (менш 5 гэкт.) — 21 прац., сярэднія (ад 20 да 100 гэкт.) — 12, 2 прац. і большыя 100 гэкт. — 25, 5 прац. Гэткім чынам больш паловы — 62, 6 прац. гаспадарак карлаватых і малых патрабуюць паважнае дзяржаўнае помачы для падняцьця свае прадукцыі.

Ёсьць шмат мэтадаў для падняцьця прадукцыі гэткіх гаспадарак. Можа прынясьці карысьць устройства паказных гаспадарак, нагрэды за лепшыя гаспадаркі ці асобныя галіны гаспадаркі, інструктарскія парады, асnаваньне кулак ральнічых, малочных коопэратываў, касаў ашчаднасьці, арганізацыя гаспадарчых курсаў, адчытаў, выцечак і г.д. Але нівошта з гэтых мэтадаў не паможа, калі самі гаспадары ня зьменяць сваіх старых поглядаў, якія перашкаджалі ім падняць культурны розень сваіх гаспадарак і не адмовяцца ад устарэўшых мэтадаў.

Нашыя сяляне бачаць палепшаньне сваіх гаспадарак толькі ў павялічэньні абшару зямлі, але не ў углыбленьні культуры. Праўда, гэта тлумачыцца з аднаго боку малакультурнасьцю самых сялян, а з другога адсутнасьцю нагляднага прыкладу добра пастаўленых малых гаспадарак. Бо высокая культура вялікіх гаспадарак ці паказных дзяржаўных, для іх малапераконваючыя. „Э, кажа, дай мне толькі грошаў, колькі траціцца на гэтыя гаспадаркі, дык і у мяне будзе такая..."

Да гэтае пары яшчэ ня ўсе вераць у карысьць штучных гнаёў, шматпольнае сыстэмы, рацыянальнае жывёлагадоўлі і г, д. Як абрабляў дзед, так абрабляе сын і ўнук. Можа, каб ня было побач вялікае ўласнасьці і вольных абшараў зямлі, дык кожны узяўся-бы за свой кавалак зямлі і давёў-бы яго да пэўнага культурнага роўня, як гэта дасягнута у Заходніх дзяржавах, дзе у сялян ня больш зямлі, чым у нашых.

Перш-на-перш, нашыя сяляне ня ўмеюць справіцца з жывым інвэнтарам. Часта трымаецца жывёла не ў такім ліку і не такой пароды, якіх вымагае гаспадарка. Большасьць нашых гаспадароў глядзіць на каровы ці коняў, як на машыны для вырабкі хлеўнага гною. Ня трэба трымаць у гаспадарцы больш коняў, чым вымагае гаспадарка. Бо калі трымаць непатрэбных коняў толькі для вытвараньня гною, дык гэта ніколі не аплаціцца. Асабліва гэта трэба мець на ўвазе цяпер, калі адчуваецца недахоп пашы. Хто ня бачыў такіх прыкладаў, што пракарміўшы цэлую зіму, на вясну прадаваўся конь за меншую цану, чым увосені. Я не гавару ўжо аб тым, што ў Заходняй Эўропе і Амэрыцы з пасьпехам рабочага каня выціснулі каровы. Рабочая карова нічуць ня ўступае па малочнасьці нерабочым, зразумела, калі будзе добра карміцца.

Што датычыць кароваў, дык заместа некалькіх штук дробных, якіх трымаюць як машыны для вытворчасьці гною, лепей трымаць адну добрае расы. Гэта дасьць ашчаднасьць на корме і магчымасьць лепш утрымаць. Расу палепшыць можна павольным падборам. У нас не заўсёды затрымліваюцца над тым, ад якой каровы ці бычка пакінуць цялё на гадоўлю. Назначанае для пра-

дажы цялё трэба прапаваць магчыма скарэй, бо доўгае трыманьне не аплачваецца.

Затым, вельмі карысна гадоўля сьвіней, зразумела добрай пароды і пры умелым доглядзе за імі. Утрыманьне сьвіней заўсёды аплаціцца.

Галоўнаю вадаю палявой гаспадаркі малых гаспадарак зьяўляецца надмерны пасеў збожжа коштам матылькових і караньплодаў. А дзякуючы частаму пасеву збожжа пасьля збожжа глеба выраджаецца і зарастае сарнякамі. Затым, недахоп канюшыны і караньплодаў не дае магчымасьці трымаць адпаведнага ліку жывёлы, што ў сваю чаргу, адбіваецца на гнаі.

Зусім зразумела, што не пасьля ўсялякага збожжа можна сеяць другое, бо адно і тое высмоктвае з глебы адныя і тыя спажыўныя сокі. Найлепш жыта сеяць пасьля матыльковых (канюшыны, гароху, сэрадэлі), а авёс і ячмень пасьля бульбы.

### Дагляд за самкамі ўцяжку.

Жарэбныя кабылы патрабуюць заботлівага дагляду за сабою. Летам выпушчаць на пашу асобна, пры чым мейсца павінна быць роўнае, бяз розных загарадак. Ня можна ўжываць для цяжкае работы, асабліва ў другую палову цяжкі. Ня можна ўжываць для хуткае язды. Добра карміць. Не паіць халоднаю вадою. За два тыдні перад жарабеньнем кабылу аддзяліць ад рэшты коняў, паставіць у прасторным хляве і мягка падасланым. Ня трымаць на прывязі. Падковы зьняць. Калі вымя зачне набракаць, трэба па два разы ў дзень выводзіць на двор. Найлепшы корм— авёс, сена, атрубы, мочаны ячмень, зьмешаны з сечкаю.

Цельную карову трэба добра карміць, каб цялё нармальна разьвівалася. Не даваць корму заплясьнеўшага, гнілой ці прамерзшай агародніны, бульбы і наагул добра абходзіцца.

Пасьля ажарабеньня ці ацяленьня даваць кабыле ці карове цёплае пойла з атрубоў ці мукі, лепшае сена ўзіму і траву летам. Не акармліваць, асабліва кормам труднастраўным. Калі маладая матка ня мае мацярынскага пазыву, дык трэба асьцярожна прыблізіць навародка, каб аблізала яго (гэта патрэбна дзеля таго, што выклікае абег крыві ў скуры) і не перашкаджала ссаць. У гэткіх выпадках раіцца абсыпаць навародка салонаю мукою.

### Дагляд за занядбалымі парасятамі.

Часта здараецца, што 3—4 тыднёвыя парасяты, выглядаўшыя да гэтага часу добра, раптоўна пачынаюць сохнуць, асабліва на крыжах і белая шэрсьць робіцца бруднаю, а затым зусім чорна-бураю. Бязумоўна, гэта ёсьць азнакі хваробы. Некаторыя з іх худзеюць і нарэшце гінуць.

Гэта хвароба зьяўляецца асабліва ўзіму і прычынаю бывае дрэнны корм, адсутнасьць руху, паветра і сьвятла. Часта прычыняецца да гэтае хваробы і нячыстата ў хляве, якая сама сабою ёсьць шкоднаю. Хто хоча запабегчы страце парасят, павінен іх перагнаць у чысты, прасторны і праветраны хлеў. Акрамя таго, трэба матку з парасятамі выпушчаць на сьвежае паветра, каб пагулялі і каб пабегалі. Да корму падсыпаць дзеравянага вугля.

### Што трэба рабіць у студні.

Залежна ад стану пагоды можна знайсьці працу і ў полі. У часе адлігі спусьціць скоп вады з загонаў, пад якою можа гніць азімае збожжа. Стварыўшуюся скарупу сьнегу ламаць пры помачы выгнаных коняў. Пакуль сьнегу мала на палёх і лугох, рассеяць тамасоўку і каініт. Вывазіць гной з хлеву і складаць у вялікую кучу, абсыпаўшы зьверху зямлёю. На сухія лугі вывазіць кампосты.

У дамовай гаспадарцы даглядаць жывёлу. Каровы паіць толькі летняю вадою. Цяляты гэтае пары найлепшыя для гадоўлі. Пасьля 24 гадзінаў адсадзіць ад каровы і паіць. Каровы трымаць у чыстаце, а сьвіньні у сушы. Аблічыць колькасьць маемай пашы. Калі ня хопіць да вясны, дык частку жывёлы прадаць, каб не марыць галадам усяе. Кожны дзень выганяць жывёлу на сьвежае паветра. Агледзіць хлеў, каб ня заносіла сьнегам.

У садзе зграбнуць сьнег к дрэвам і ўтаптаць. Гэта спозьніць квітненьне, затое прынясе карысьць, асабліва вішням і грушам, якім шкодзяць вясновыя замаразкі. Камлі пабяліць вапнаю з глінаю, абвязаць саломаю, калі шкодзяць зайцы.

У выпадку сільных маразоў заглядаць да капцоў з бульбаю, каб ня вымерзла. У цяплейшыя дні праветрываць. Звазіць з лесу дрэва для будоўлі, апал, калы, цэглу, вапну, лёд, калі патрэбен у малочнай гаспадарцы. Купляць збожжа на насеньне і выпісаць штучныя гнаі. Хадзіць на ральнічыя курсы і адчыты. Чытаць землярobскія кніжкі. Абмяркаваць плян вясновага пасеву і ўгнаеньня свайго поля. Абгаварыць з суседзямі агульныя справы па падняцьцю дабрабыту, як мэліарацыі, камасацыі, паправы дарогаў і іншых. Выкарыстаць заработак на старане.

### Дагляд за пчоламі.

Пчолы ўзіму знаходзяцца ў паўсонным стане і кормяцца мёдам. Адною з найбольшых патрэбаў зімуючых пчолаў — спакой і ціша. Вельмі шкодзяць: вільгаць, зацяканьне вадою і скразьнякі.

На пасецы трэба аберагаць вульлі ад мышэй і дзятлаў. Не хадзіць між вульлямі па замёрзшаму сьнегу. Ня впушчаць на пасеку жывёлы. Абсякаць ці прывязываць гальлё, каб ня стукала па вульлю. У часе адлігі ці галаледзіцы запабягаць, каб каплі даждҗу ці кавалкі лёду ня стукалі па вульлю. Прыкрыць зьверху вульлі карою. Чытаць кніжкі аб пчалярстве.

# Новая арганізацыя Польскага Суда.

З першага студня 1929 г. уваходзіць у жыцьцё загад Прэзыдэнта Рэспублікі ад сакавіка 1928 (Dz. U. R. P. Nr 12 § 93) пад назваю „Закон аб арганізацыі агульных судоў,“ уводзячы грунтоўныя зьмены у істнуючыя ў Польшчы законы. На падставе гэтага закону арганізацыя судаводзтва у агульных рысах будзе выглядаць гэтак:

**МІРАВЫЯ СУДЫ,**

**якія будуць адкрыты ў некаторых гмінах.**

Суды гэтыя будуць разглядаць іскі да 200 зл. за вынятком справаў: а) узьнікшым па вэксалёх, чэках, аблігацыях ці іншых падобных вартасьцёвых паперах; б) аб правох на нярухомасьці, гіпотэкі і г. д.; в) у якіх абвінавачаным зьяўляецца Скарб, як публічна-праўная асоба.

Міравыя судзьдзі выбіраюцца. Выбраным можа быць кожны польскі грамадзянін маючы 30 гадоў, бязупрэчнага павядзеньня працаздольны, валадаючы вусна і пісьменна польскаю моваю і з адукацыяй прынамся 6 кляс польскае сярэдняе школы. Выбары адбываюцца праз 5 гадоў. Пасада гэтая ганаровая, аднак-жа судзьдзя можа атрымліваць пэнсію за патрачаны час. Ня могуць быць выбранымі: паслы Сойму і сэнатары, вайсковыя актыўнае службы, дзяржаўныя ці камунальныя урадоўцы, адвакаты, натарыусы, сьвяшчэньнікі і манахі.

# Навука і тэхніка.

### Амэрыканская тэхніка.

У Паўночнай Амэрыцы, як ведама, дзякуючы надмернаму багацьцю, усё робіцца ў чыста „амэрыканскім маштабе“. Аўтамабіль прыходзіцца на кожныя 5 чалавек. Шошы будуюць бэтона-асфальтавыя з электрычным асьвятленьнем на ўсей прастрані. Для аблягчэньня пешага руху ў гарадох па вуліцах будуюцца спэцыяльныя торы для аўтамабільнае язды на вышыні 2—3 паверху. Заместа мастоў, у гарадох будуюць вялізарныя тунэлі.

Места Лёс-Ангэляс, напр., асыгнавала 350,000 даляраў на сканструаваньне каля школаў спэцыяльных тунэляў, па каторых школьныя дзеці маглі-бы бясьпечна пераходзіць на другі бок вуліцы, не затрымліваючы аўтамабільнага руху.

У вялікшых гарадох, як Ню-Ёрк, Вашынгтон, Чыкаго, Бальтымора, С.—Францыска, Л.—Ангэляс і інш. будуюць дамы „небаскробы“, якія параўноваюць з мястэчкамі адносна ліку іх кватэрантаў. Гэтыя „небаскробы“ даходзяць да 50—60 паверхаў і больш. Каб мець сабе выбражаньне аб вялічыні гэткіх „небаскробаў“, прывядзём некалькі лічбаў.

У Ню-Ёрку нядаўна быў выбудаваны гмах Equitable Buldwing, 37 паверхавы „небаскроб“, у якім жыве 12,000 кватэрантаў. У працягу 24 гадзінаў 127,000 асобаў уваходзіць і выходзіць з гмаху. Камунікацыя між паверхамі падтрымліваецца пры помачы 63 ліфтаў (пад'емных машынаў), якія прабягаюць у працягу году 420,000 кілямэтраў, пошта дастаўляе кожны дзень 60,000 пісем і пасылак кватэрантам. У доме 10,000 дзьвярэй і 5,000 вакон—Асьвятляецца 20,000 электрычных лямпак.

А колькі-ж можна памясьціць кватэрантаў у 60—паверхавых „небаскробах!“

Нядаўна выбудаваны ў Нью-Іорку 24—паверхавы „небаскроб“— гараж для аўтамабіляў, у якім можа памясьціцца некалькі тысячаў аўтамабіляў.

Для нас пакуль усе гэтыя рэчы здаюцца апавядаючым з байкавага сьвету.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друк. ім. Фр Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.